

# Будзем падрыхтаваны да М. Д. Т.

Міжнародны дзіцячы тыдзень адбываўся ў нас да гэтага часу, як кампанія, без патрэбнай падрыхтоўкі. Нам патрэбна правесьці вялікую працу перад гэтым тыднем, каб апраўдаць лёзунгі М. Д. Т. У гэтым годзе нашымі лёзунгамі будуць:

1. Узмацніць свае інтэрнацыянальныя веды, больш азнаёміцца з жыцьцём і працай замежных таварышоў, наладзіць з імі перапіску. Так, напрыклад, наша Беларуская організацыя павінна ўзмацніць сваю сувязь з Польшчай і Літвою. Разам з гэтым мы павінны палепшыць нашы нацыянальныя ўзаемаадносіны саміх атрадаў, бо яшчэ можна чуць у атрадзе слова „жыд" і інш. Гэта кажа за тое, што ў нас ёсьць нацыянальныя спрэчкі сярод піонэраў. Нам добра трэба азнаёміцца з тым, чаму пры царызьме прыгнечваліся нацыянальныя меньшасьці, а разам з гэтым, якія ўзаемаадносінны павінны быць цяпер сярод нацыянальнасьцяй. І апошняе—гэта ўзмацненьне працы піонэраў у МОПР-ы.

2. Другая задача—гэта як мага больш атрымаць культурных ведаў. Трэба зрабіць так, каб вясковыя атрады як мага больш атрымоўвалі сельска-гаспадарчых ведаў і скарыстоўвалі іх для сваёй гаспадаркі. Нам трэба больш азнаёміцца з тэхнічнымі ведамі (радыё, электрычнасьць і інш.) і разгарнуць у гэтай галіне сваю далейшую працу. СССР патрэбен культурна-граматны піонэр і мы павінны яго такім даць.

3. Мы яшчэ ня зусім здолелі абхапіць сабой неорганізаваную масу дзяцей, а ў зьвязку з гэтым адбываюцца розныя хуліганствы дзяцей, гульня ў карты; пры гэтым частка нашай піонэрыі таксама не заўсёды служыць прыкладам для другіх, а пад час і сама прымае ўдзел у хуліганстве. Слаба праводзіцца праца сярод школьнікаў і амаль што аніякай працы не праводзілася сярод бяспрытульных. Загэтым мы да дзіцячага тыдню ставім сур'ёзнай задачай узмацненьне свайго уплыву сярод неорганізаваных дзяцей. Разам з гэтым, М. Д. Т. цесна зьвязаны з пачаткам навуковага году ў школах і тут трэба адразу падумаць аб узмацненьні сваёй працы ў школе.

4. Нам прыдзецца азнаёміць масы з дасягненьнямі і недахопамі нашай працы. Трэба будзе больш выявіць нашы хваробы працы і палажыць пачатак да лепшага выпаўненьня нашых задач. Разам з усёй гэтай працай нам трэба ўзмацніць нашу дысцыпліну як у атрадзе, таксама і за межамі атраду. Разам з гэтым трэба будзе больш увагі зьвярнуць нашым малодшым братом—акцябратам.

Вось галоўныя задачы нашага М. Д. Т. Да таго, як мы будзем праводзіць гэты тыдзень, прыдзецца праводзіць працу ў атрадах па ўзмацненьню нашай працы і выпаўненьні лёзунгаў. Будуць зроблены выстаўкі лепшага вядзеньня сельскай гаспадаркі піонэрамі. Падагулім таксама працу аб тым, на колькі мы здолелі абхапіць сваёй організацыяй неорганізаваных дзяцей.

У вясковых атрадах сьвята будзе праводзіцца 2 дні. Трэба будзе па меры магчымасьці зрабіць, каб гэтыя дні насілі сьвяточны характар. Рабіць вечары, масавыя гульні і інш.

Пры правядзеньні М. Д. Т. у гэтым годзе нам трэба будзе падлічваць усе недахопы мінулага году, каб яны больш не паўтараліся. Перад піонэрыяй стаіць сур'ёзная задача—правядзеньне М. Д. Т. і мы дасягнем толькі тады добрых вынікаў, калі ў свой час за гэта возьмемся.

Б. Ром.



Менск, 1-я Дзяржаўная друкарня зак. № 3480—1400. Галоўлітбел № 19847.

# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

Зьмена зьмену рыхтуе сабе — піонэр — комсамол — КПБ.

УМОВЫ ПАДПІСКІ:
на 12 м. . . 2 р. 40 к.
на 6 м. . . 1 р. 20 к.
на 3 м. . . — 60 к.
на 1 м. . . — 20 к.

ШТОМЕСЯЧНАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ
ОРГАН
ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
Менск, Пляц Волі,
Наркамасьветы БССР
— тэлефон № 443. —

№ 7. ЛІПЕНЬ 1926 г.



Янка Купала.

## ЗАЎСЁДЫ ГАТОЎ!..

Піонэр я малады, хоць куды!
Ня смучуся, сьмяюся вясёлы;
Я ня знаю ні бяды, ні нуды,
Бухну ў бубен—і пашоў, і пашоў...
Пераскочыць і горы, і долы
Заўсёды гатоў!
За свабоду я пайду хоць у вір,
Бо я вольны, як вецер, як птушка,—
Дзядзька Ленін мне адно—правадыр.
За працоўны народ проць акоў
Выйсьці з песьняй сваёй весялушкай
Заўсёды гатоў!
Не баяліся браць барыкад,
Як няволі ішлі крышыць сьцены...
Я таксама разбураць стары лад,
Дзе застаўся ад мінулых вякоў,
Заўсёды гатоў!

Хоць бабулі мне бурчаць, не маўчаць,
Што з багамі ніяк ня міруся...
Чым папала, я гаціць буду гаць;
Я ня толькі ваяваць проць багоў,—
Нават чорта ганяць з Беларусі
Заўсёды гатоў!
Падрасьці-б мне, як мага найбардзей,—
Паказаў-бы сваю моц і сілу!
Сьцеражыся ўжо тады, ліхадзей!
Бараніць ў кожны час без адмоў,
Як быў, буду красу волі мілай
Заўсёды гатоў!
Вось які я піонэр, хоць куды!
Ня смучуся, сьмяюся, вясёлы;
Я ня знаю ні бяды, ні нуды,
Бухну ў бубен—і пашоў, і пашоў...
Пераскочыць і горы, і долы
Заўсёды гатоў!






*(Апавяданьне*).*

Пакінуўшы маёнтак, хлапцы прышлі ў мястэчка ўжо досыць позна і накіраваліся да тэй хаты, дзе жылі бацькі Шлёмы.

У кухне хлапцоў спаткала Шлёмава сястра, Соня, бялявая і моцна ўзрушаная.

— Што з табою, Соня? — запыталі ў адзін голас хлапцы.

Соня са сьлязамі на вачох пачала шэптам апавядаць аб тым, што нарабілася ў мястэчку. Палякі забралі бацьку разам з канём у абоз; матка з дзецьмі ўцякла на хутар да знаёмых; шмат якія жыхары пахаваліся па лясох і суседніх вёсках, баючыся палякаў, якія хочуць спаліць мястэчка.

Шлёма папрасіў есьці. Соня выцягнула з-пад ложка куфэрак, дастала адтуль лусту хлеба і падзяліла яе між хлапцамі. Хлапцы елі з вялікім апэтытам, завіхаючыся, каб пайсьці паглядзець, што робіцца на кірмашовым пляцы, дзе, зьбіўшыся ў вялікі натоўп, адпыхалі палякі пры адступленьні.

Вышлі на двор. Па бруку грукацеў калёсамі бесканцовы абоз. чулася лаянка, праклёны і сьцёбаньне бізуноў. Дзесь недалёка тахкаў кулямёт, а на небасхіле бухала чырвоным колерам шырокае полымя.

Увесь кірмашовы пляц, куды падышлі хлапцы, асьвятляўся раскладзенымі вогнішчамі, навакол якіх сядзелі жаўнеры. У баку, каля царкоўнае загароды, хлапцы заўважылі некалькі чалавек у шэрым адзеньні, навакол якіх густым колам стаялі жаўнеры, перакідаючыся жартамі. Людзі ў шэрым адзеньні былі бальшавікі, якія ў часе разьведкі папалі ў палон. Вусаты польскі сэржант трос кулаком над палоннымі, абзываючы недавяркамі, і кляўся, што жывымі ня пусьціць. Праз нейкі час іх завялі ў пусты дом крамніка Сроля, пад нагляд вартаўніка. Вокны ў доме былі забіты кратамі, а дзьверы замкнёны.

Дом крамніка Сроля быў добра знаёмы як Моту, так і Шлёму. Яны каліс сябравалі з Сролевым сынам Ёселем, але адзін раз дурэючы павярнулі зэдаль і скінулі вялізную бутлю з газаю на мяшок з цукрам. Газа заліла ўвесь цукар, а хлапцы тым часам уцяклі, пакінуўшы сябраваць з Ёселем і баючыся Сроля, які абяцаўся ім недараваць. Пазіраючы на жалезныя краты, Шлёма ціха сказаў:

— А, вось, як-бы гэта падаць хлеба гэтым палонным, яны-ж, пэўна, галодныя?

— Зусім непатрэбна, — сказаў задумёны Мота.

— Чаму? — зьдзівіўся Шлёма, — ціж ты неспачуваеш?

— Спачуваю, але ў мяне ёсьць нешта іншае, чым можна дапамагчы, калі... Хадзем лепш у Сроляў садок, што прылягае да дому, і там нешта паглядзім.

Асьцярожна прайшоўшы ў браму суседняга дому і пераскочыўшы высокі паркан, яны апынуліся ў густых малінавых кустох Сролявага саду. Высокая крапіва, якая расла поруч з малінамі, бязьлітасна пякла ім рукі і ногі. Шлёма ідучы з-заду цмокаў і вохаў скрабучы ногі, якія сьвярбелі ад бязьлічных пухіроў. Мота палахліва азіраўся назад і грозячы пальцам шаптаў: „шш-а!“

Хлапцы падышлі да самага Сролявага дому, прытуліліся ля сьцяны і аглядзеліся навакол. Мота палажыў руку на плячо Шлёмы і запытаў:

— Ты ведаеш, што мы сядзім каля склепу?

— Ведаю, вось-жа і дзірка ад склепу.

— У тым-жа і справа, што тут дзірка. Я мысьлю, што склеп адамкнёны, калі ў гэтым доме панавалі палякі. Нам застаецца ўлезьці праз склеп у хату, паведаміць палонных таварышоў і паказаць ім гэту дзірку, праз якую яны змогуць уцячы на волю.

Шлёма заляпаў у ладкі.

— Шш-а! — супакоіў яго Мота і палез праз дзірку ў склеп.

*) Гл. пачатак у № 6 „БП“.

Сьледам за ім пасьпяшаў і Шлёма. Мота нагою абмацаў кадушку і зьлез на дно склепу, пасьля чаго падкаціў кадушку бліжэй да сьцяны і паставіў на ёй пусты куфэрак, каб Шлёму латвей было зьлезьці. Асьцярожна прыслухоўваючыся, хлапцы вышлі з склепу і апынуліся ў вузкім калідорчыку. Праз зачыненыя дзьверы чуваць была размова. З хвіліну пастаялі раздумваючы, што рабіць. Нарэшце Мота ціха адчыніў дзьверы. Размова заціхла.

— Хто тут? – пачуўся голас.

— Вашы таварышы. Мы вам спачуваем і прышлі паказаць, як уцячы; мы тутэйшыя—я Мота, а вось мой сябар, Шлёма.

Нехта густым басістым голасам адказаў: — Знаем мы вас, збавіцеляў! Жандары, напэўна, сюда вас па іаслалі, каб зрабіць нас дурнямі і пастраляць у часе ўцяканьня. Выбірайцеся, саколікі, пакуль цэлыя, а то кепска будзе!

Хлапцы ўтаропіліся і ня ведалі што рабіць ад неспадзяванага адказу. Яны ўжо накіраваліся ўцякаць, баючыся апынуцца між двух агнёў, як пачуўся голас: „Мота, гэта ты?“

Раптоўна прасьвятлеўшы ад радасьці, Мота сьмела накіраваўся ў той бок, адкуль данесьліся словы. Голас гэтых слоў быў так знаёмы Моту, што ён, бяз жаднай развагі, амаль што не закрычаў: „Татачка, няўжо й ты тут?Якім чынам?“—і схапіўшы бацьку за руку павеў у склеп, завучы за сабою іншых таварышоў.

Праз паўгадзіны ўсе былі на свабодзе. Бацька расказаў Моту, што палякі арыштавалі яго за тое, што ён выцяў па твары польскага афіцэра, які дазволіў сабе зьдзеквацца над яго дачкою. Палякі мелі на ўвазе растраляць яго разам з іншымі арыштаванымі.

Хлапцы былі бязьмерна рады, што вызвалілі ад польскіх капцюроў некалькі чалавек, расказвалі Гэйсэлю аб сваіх здарэньнях у маёнтку, і згадзіліся правесьці вызваленых таварышоў у забясьпечанае месца, дзе-б іх не маглі знайсьці палякі.

Вышлі ў агарод і, прайшоўшы мяжою, павярнулі ў завулак, ад канца якога вілася сьцежка праз луг да самага лесу.

Як толькі падышлі да старога паўразбуранага будынку, што стаяў у канцы завулку, як з зямлі вырасла шэрая фігура польскага жаўнера.

— Стой! хто ідзе?!—закрычаў жаўнер.

У адзін момант усе разьбегліся, хто куды меў магчымасьць. Мота кінуўся ўцякаць у бок грэблі, паабапал якой раслі густыя лазовыя кусты. Пачулася некалькі выстралаў...

Мота ўцякаючы наскочыў на калючы дрот, якім была зблытана грэбля, і зачапіўшыся паваліўся, моцна выцяўшы правую руку. У гэты самы момант ён пачуў з-заду цяжкія крокі і моцнае сапеньне жаўнера, які схапіў яго моцна за каўнер, выцяў два разы па карку



... Я-ж упарты,—сказаў Мота.

і павёў у мястэчка. Што сталася з бальшавікамі, дзе Шлёма?.. Мота гэтага ня ведаў, бо набегла шмат жаўнераў і ў іх агульным гомане нельга было зразумець, што адбываецца.

Жаўнер прывёў Моту ў памяшканьне гміны і ўпіхнуў у бакавы пакойчык. З за стала падняўся тоўсты жандарскі афіцэр, круцячы рыжыя вусы. Жаўнер выцягнуўся ў струнку і падрабязна далажыў афіцэру ў чым справа. Афіцэр злосна скрывіў твар, паказваючы жоўтыя зубы, і, сьціснуўшы кулак перад носам Моты, закрычаў, стукнуўшы нагою: „Ты, шчанюк, меў справу з бальшавікамі?! Ты шпег! Адказвай!“ Мота маўчаў. Афіцэр, пырскаючы сьлінаю, крыкнуў жаўнеру: „Адвесьці яго на пастарунак, там яму разьвяжам язык!“

Вялікім натоўпам адступалі палякі з мястэчка. Чарада п'яных жаўнераў па загаду

афіцэра запаліла найвялікшы будынак у мястэчку, паліўшы яго газаю. Праз колькі хвілін мястэчка залілося морам агню, сярод якога хваляваліся густыя клубкі шэрага ўдушнага дыму. Скрозь лаянку жаўнераў, бразганьне калёс і бесканцовых выстралаў, чуліся енкі і ляманты жыхароў, маемасьць якіх была ахоплена полымем пажару.

А другой гадзіне ночы пачуўся вялікі выбух, ад якога здрыганулася паветра і забразгалі пабітыя вокны. Сярод адступаючых палякаў утварылася нязвычайнае занепакаеньне. У поўным беспарадку яны разьбягаліся ў розныя бакі, кідаючы вінтоўкі і патроны. Выбух адбыўся на мосьце, перакінутым праз раку, у выніку чаго мост быў дашчэнту зруйнаваны і, такім чынам, палякам шлях да адступленьня быў адрэзаны. У шалёнай злосьці разьяжджалі польскія афіцэры, жадаючы ўтварыць сякі-такі парадак. Страляньне з гарматаў, кулямётаў узмацнілася. Раптоўна з усіх бакоў пачуліся трывожныя крыкі жаўнераў: „Бальшавікі! Бальшавікі!“

Спалоханыя жаўнеры кінуліся ў рэчку, топячы адзін другога і вязнучы ў гразкім дрыгвістым беразе рэчкі. Раптоўна, як віхор, ускочыў у мястэчка атрад конных чырвонаармейцаў. Разброеныя палякі бяз спрэчак здаваліся ў палон.

Жандары, якія былі пры пастарунку, разьбегліся, і Мота з іншымі арыштаванымі апынуўся на свабодзе.

Праз нейкі час жыхары мястэчка здабылі чырвоны сьцяг і прывіталі чырвоных вызваліцеляў. З прывітальным словам выступіў стары рабочы с мясцовай лесапільні. Гаварыў доўга, з вялікім запалам, у канцы дзякаваў чырвонаармейцаў за вызваленьне мястэчка. Мота, які тут стаяў, захапіўся жаданьнем выказацца. Ён выступіў наперад і хацеў штось сказаць, але ад нахлынуўшага ўзрушэньня ня змог зьвязаць думкі. Нарэшце, падыйшоўшы да чырвонаармейцаў, ён сказаў: „Таварышы, прымеце мяне ў чырвонае войска!“ Малады высокі камандзір засьмяяўся і абяцаў прыняць яго ў лік чырвоных салдат тады, калі ён падрасьце.

— Тады я пайду сам бяз вашага дазволу, калі так,—сказаў з запалам Мота пад агульны рогат чырвонаармейцаў і ўсіх прысутных. Камандзір з усьмехам сказаў: „Вось які ты ўпарты! Ну, што-ж, я згодзен, толькі боязна, каб ты ня жаліўся на розныя перашкоды“.

— Ніколі, таварыш камандзір! Я-ж упарты! – сказаў Мота, узяўшыся ў бокі і падняўшы галаву, горды тым, што яго прынялі ў чырвонае войска.

Узышло сонца і косымі яскравымі праменьмі асьвяціла дымныя руіны мястэчка. З высокага ганку адзінай у мястэчку камяніцы ліліся гарачыя прамовы. Доўгімі бадзёрымі шэрагамі праходзілі атрады чырвонаармейцаў.

Мота забег праведаць Шлёму і застаў яго хворым у пасьцелі. Ён расказаў яму аб сваіх здарэньнях і дадаў пры разьвітаньні: „Хутчэй ачуньвай! Спадзяюся, што не ўзабаве і ты будзеш чырвоным салдатам“.

Па пыльнай дарозе рушыўся на захад атрад, у шэрагах якога бадзёра йшоў Мота, горды тым, што ён салдат чырвонага войска.

(*Канец*).

**Яз. Вір.**

# СКАКУНЦЫ.

Там, дзе дрыжаць праменьні,
Там, дзе гарачыня,
Зьлятаюцца раеньні
Ды чутна стрыкатня.

Падзёнкі ані дбаюць,—
Лятаюць над вадой.
Яны ў жыцьцё гуляюць,
Стрыкочуць над бядой:

„Ці-ж сонца сёньня мала?
Ці будзе век сьвяціць?
Ці дню ані прыдбала?
Ці-ж нам ўсё жыць ды жыць?

Ня мы ў жыцьці павінны!
Хай плача небарак,
Ды той, хто павучынны
Тчэ—дбае андарак!

Нам сонца дасьць адзежу,
А кветкі—смакі страў.
А прыдзе ноч, дык вежу
Мы знойдзем ў гушчы траў.

Навокал так прыемна,
Пакуль гарачыня:
І светла і таемна“—
Гудзе так стрыкатня.

Падзёнкі ані дбаюць,
Лятаюць над вадой,
Яны ў жыцьцё гуляюць
Вясёлай чарадой.

**М. Грамыка.**




## КАЗКА ЯКУБА КОЛАСА*)

XII.

Рак панура сядзіць
І на сьвет не глядзіць.
Сьцеражыся-ж ты, рак:
Унь ідзе, брат, жыта!
Рыба валіць пад гак,
Сом храпе сярдзіта.
Плёх усьцяж на вадзе,
Няма месца нідзе.

Каліва ржаное,
Сьпелае, буйное
Стала над вадою
І сказала: „Рача!
Скрыўджан ты, ня йнача,
Нейкаю бядою.

Але ты паслухай, дружа:
Ой, па сьвеце ходзіць сьцюжа!
Ой, халодзіць яна дужа!

Ветрам дыша, сьнегам сьцеле,
Чуць той дух трывае ў целе.

Надыходзіць старасьць-восень,
З воч зьнікае неба просінь,
Віснуць ніці з хмарак-кросен.

Ой, выносяць мяне ў поле,
Рассыпаюць ды на ролі,



Ой, людзкія тыя жменькі,
З саламянай тэй сявенькі,
У халодны дол, пусьценькі.

Усё чыста з поля зьнята,
Там адны мае зярнята.

А той вецер дзікім сьвістам
Дзьме на полі, полі чыстым,
Усьцілае жоўтым лістам

Мае шоўкі, мае руні,
Ды халодных хмар насуне.

Золкасьць, зыркасьць і плюхота,
Журба, смутак і тускнота,
Безьлюдзь, жудзь і адзінота.

Скубуць мае руні-шоўкі
І авечкі і кароўкі,

Бо няма ім больш спажывы,
Бо расьлінкі ўсе ня жывы,
Бо сабраны травы, нівы.

А там сівер чмыхне злосна—
Ой, як страшна стане млосна!

Ткуць марозы кужаль белы,
Засьцілаюць ім сьвет цэлы,
Убіраюць дол зьмяртвелы.

Мае шоўкі, мае руні
Скрышыць злы мароз-дзядуня.

Пад абрусам тым кужэльным,
Пад тым холадам пякельным
Я ляжу, сплю сном сьмяртэльным.

Ды надыдзе зноў вясенька,
Маладзічка весяленька.

Шумным сьпевам пройдуць воды,
Паскідаюць з рэчак лёды,
Зноў павее дух малоды.

Мае шоўкі, мае руні
Аднавіць вясна-красуня.

*) Глядзі № 6 „БП“.

Як зязюлька-ж крыкне ў гаю,
Я на сонцы заіграю,
Я пучочкі выганяю.
Вецер бегам нясупынным
Гоніць хвалі срэбрам плынным,

Шоўкам сьцеле на загоны,
А я толькі б'ю паклоны
Ва ўсе чысьценька староны—


... Зрэжуць колас мой буйненькі...

Ветру, сонцу і зямельцы,
На мяжы траве-кудзельцы.

Ой, надыдзе-ж тое лета!
Жоўтым шоўкам я адзета,
І тут песьня мая сьпета!

Ідуць жнейкі маладзічкі
І дзяўчаткі-чараўнічкі,

Нясуць жнейкі серп крывенькі,
Зрэжуць колас мой буйненькі.
Пад звон песьні галасьненькі:

„Пара зямлю адмыкаці,
Пара росу выпускаці".

Як мост, зьлягу я на просьце,
Вязуць з поля, ды ня ў госьці—
Паб'юць цэпам мае косьці.

Мае зерняткі пасушаць,
Камянямі іх падушаць!

Ой, мае-ж вы, шоўкі-руні!
Ой, пабілі-ж мяне ў клуні!
Пакрышылі, памалолі,
Не далі мне жыць на волі.

А ў тэй дзежачцы дубовай
З жоўтай клёпачкай альховай
Расчыняюць хлябок новы,

Расчыняюць на вадзіцы
З мае беленькай мучыцы.

Мяне ў дзежцы месяць-месяць,
Перавернуць разоў дзесяць,
Ды настольнічкам завесяць.

А печ паляць да чырвона,
Гляджу ў страсе я зьдзіўлёна,

Ой, ды чым я вінавата?
Шугне ў печ мяне лапата,
Дзе агнём усё пранята.
Я ў агні тым абамлею,
Пажаўцею, учарнею.

І, вось, толькі як вадзіцай,
Той халодненькай жывіцай,
Мяне ўмые маладзіца,

Тады сьвет я і пабачу...
Каму-ж горай з нас, мой рача?"
І сказаў тут рак вусач:
„Грамада! ты мне прабач.
Мая журба у прах пабіта—
Зваявала мяне жыта!
І аі гэтае пары
Прападай, мой сум стары!
Прападзі наша бяда!
Няхай жыве грамада!"

---

Рыбка з радасьці такой,
Пашла ў скокі талакой,
А за ёю пташкі,
Навалыўшы кашкі
З сьпеленькіх пурышак
І малінак-пышак,
А за птаствам—мошкі,
Падабраўшы крошкі;
За мошкамі дрэвы
Распачаўшы сьпевы,
За дрэвамі травы,
Ладзяць баль цікавы.
І прышлі музыкі
Чарадой вялікай.
Граў на скрыпачцы камар,
На дудачцы—чмель-дудар,


... Шугне ў печ мяне лапата..

Хрушч узяў басэтлю,
Задае там пытлю,
Шэршань барабаніць,
Камарыка ганіць.

—Пашоў вон! пашоў вон!
Ты ня гэты бярэш тон!—
Муха на цымбалах
Струны калыхала,
Авадзень на леры
Выцінаў бяз меры,
А зялёны конік
Рэзаў у гармонік.
Сеў сьвярчок
На сучок
Ды тне на клярнэце,
А жучок-чарнячок
Пачаў песьні пеці.
І так хораша сьпяваў,
Што зусім прычараваў
Тую бабку-шэльму,
Што прыгожа вельмі.
Выскачыў журавель,
Як Піліп з канапель,
Напалохаў жабу,
Лупатую бабу.
Пашлі ў скокі сотні пар,
А за імі і камар,
Бусла спрытна падхапіў,
Буслу ногу зачапіў,
На мазоль наступіў.



... Муха на цымбалах струны калыхала...

Драчык песьняй скончыў баль
І дашчэнту зьнішчыў жаль.
Тут дайшлі мы да канца.
Дайце-ж чарачку вінца.
А не,—
Дык папляскайце хоць мне.

(*Канец.*)

Якуб Колас



# АДПЛАТА.

*(Здарэньне з 1913 г.).*

У высі заліваюцца, шчабечуць птушкі, пырхаюць матылькі. Клякоча на ліпе бусел, гукаюць на яго, круцячыся, дзеці: „Бусел, бусел, вылі воду, закружыся на пагоду“.

Прыгналі з пашы каровы; спакойна ў халадку жуюць яны жвачку. Сьпяць зашыўшыся ў гразь сьвіньні. Самы час дзіцячых гульняў, нішто іх ня турбуе, толькі часамі прывязе чый татка снапы, дык пакліча памагчы злажыць у торп, потым зноў—ці плёхайся сабе ў сажалцы, ці пячы з жоўценькага пясочку аладачкі.

Пятрусёў бацька толькі што прывёз снапы і ён, пакінуўшы сохнуць аладачкі, завіхаўся на торпе, памагаў бацьку складаць снапы.

— Але-ж і дзянёк выдарыўся,—загаварыў бацька да малога,—ці ня зьезьдзіў-бы ты са мною з разок па снапы?

Пятрусь аж падскочыў ад радасьці, бо вельмі любіў быць „сталым“, асабліва, калі ехаў за хурмана і трымаў у сваіх руках лейцы.

— Тата, а тата,—спытаў Пятрусь у бацькі, як выехалі за вёску,—чаму гэта мяне дражняць „Гілерам“?—і пры гэтым тузянуў ляйчыну, каб паказаць бацьку здольнасьць у кіраваньні, хаця „сівы“ бег і добра.

— Альбо-ж я ведаю. Такая ўрода чалавека, што мусіш быць перахрышчаны. Няйначай, як таму, што валочысься, як калісь Гілер з Раманам. Вунь, бачыш камені?—паказаў бацька ў канец вёскі:—там жылі два браты: адзін з іх, Раман, і зараз сядзіць у турме, а другога, Гілера, забілі...

— Чаму?—перапытаў борзьдзенька малы.

— Было гэта, як ты на сьвет яшчэ не радзіўся, сама што бунтаваўся народ, зямлю ад паноў адабраць хацеў. Прыехаў гэты, значыцца, Гілер з гораду, склікаў сход...

— Куды цябе немач цягне,—крыкнуў бацька на сівага ды, узяўшы лейцы, зьвярнуў на палоску.

Амаль усё поле было ўстаўлена параскрыванымі мэндлікамі. Сям-там расьлі вазы, маталі галовамі коні, а ў другім канцы палетка завіхаліся жнеі, блішчэлі сярпы, расьсякалі паветра буйныя жмені каласоў. Завіхалася Пятрусёва матка з сястрою, але ён не пабег да іх пакаштаваць з глячка „палявое“ вады, якая здавалася заўжды яму смачнейшаю ад дамашняй, хаця бралася з аднэй студні, а застаўся класьці снапы. Нешта рупіла ўсё яму аб забойсьцьве Гілера, і ён хутка сьпяшаўся класьці снапы.

— Цішэй трохі! Мала таго, што і самі асыпаюцца каласы, дык ты прыкончваеш...

— На, лейцы!—гукнуў бацька на Пятруся як выехаў на дарогу.

— Татачка, дакончце пра Гілера,—з нецярплівасьці ізноў распачаў Пятрусь аб сваім.

— Што-ж табе канчаць, усё роўна нічога ты не зразумееш, малы яшчэ.

— Раскажэце, няўжо вам шкода,—прыставаў Пятрусь.

— Бацька, ведаючы неадчэпнасьць малога, згадзіўся.

— Сабраліся гэта мы на сход,—пачаў ён:—а Гілер—тут як-тут. Зямлю, кажа, трэба ад паноў адабраць, саміх пазабіваць, а „Котлішчы“ спаліць, каб і духу ад іх не засталося. Усе згадзіліся. Сёй-той узяў стрэльбу, а больш—з каламі. Мацей Палусін нават пляшку газы ўзяў, каб лепш гарэла... Ну-у, пашоў,—прыгукнуў бацька на сівога ды шмаргануў ляйчыною.—Толькі гэта мы пачалі з лагчынкі падымацца пад двор, як адтуль выскачылі казакі ды давай сьвяньціць чухамі.

— А хто такія казакі?—перабіў Пятрусь.

— Маскалі на конях, падобныя да вурадніка, што на тым тыдні прыяжджаў падатак сыскаваць. Можа помніш?

— Помню.

— Ну, дык вось. Хлапцы ня стрымаліся, каменьнямі засыпалі іх, Гілер раз стрэліў з лявар вэра, за ім Іван Дзямянаў, Лістукоў Мікалай. Двое казакаў тут-жа зваліліся з коняй, а рэшта, выхапіўшы шаблі, засеклі на сьмерць Гілера ды Мікалая. Івана жывога прывезьлі дамоў, але ня выжыў. Шмат каму—ці руку, ці плячо папсавалі, а „чухі“ пакаштаваў кожны. Якаў Крэняў у бярэзьніку схаваўся, знайшлі, затое хапіла з яго... У мяне таксама і па цяпер шрам на сьпіне ад шаблі.

А шкада, што не спалілі двара... Ну-у, а каб цябе!..

---

Пасьля бацькавага апавяданьня Пятруся абхінулі думкі. Здавалася яму, што спаліць двор гэта так проста і лёгка, што ўсяму сялу тут і рабіць няма чаго. „Дурныя, думаў ён, ішлі ды яшчэ са



Ўсё поле было ўстаўлена мэндлікамі.

стрэльбамі, калі-ж гэта работа аднаго чалавека... Чыркнуў запалку і—гатова“. Ня раз блукала ў галаве думка: а што, каб спрабаваць. І чым больш разважаў, тым больш праконваўся, што гэта яму ня зробіць жаднае труднасьці. Якаясьці, мала зразумелая для яго, сіла цягнула яго, казала: „ідзі-спалі.“

Як праз сон уяўляў ён сабе:—згарыць двор, паны зьбяднеюць ды пойдуць жабраваць, як яго хрышчоны бацька Рыгор пасьля пажару ў мінулым годзе, паразыходзяцца парабкі, ня будзе каму каровы займаць і, самае важнае—аддасьць паплаўнічы халацік, які ляжыць яшчэ з вясны ў яго, бяз якога Пятрусь так мучыцца. Колькі разоў ён прасіў матку сыскаць, але яна ня маючы паўрубля, заўжды адказвала:—Дзе палажыў, там і вазьмі.

„Вось, каб удалося“—думаў ён, і пляны адзін за адным, разам з дваром, праходзілі няяснымі вобразамі. Але калі-ж гэта зрабіць? Узяць, скажам, сьяточны дзень, калі за яго сястра пагоніць каровы—небясьпечна, могуць угледзець. Пайсьці ноччу па дарозе каля Вялетаўскіх могілак—страшнавата неяк.

Застаецца адна пара—увечары, пакуль добра сьцямнее, можна быць на мейсцы.

Выбрана была субота. Увесь дзень Пятрусь быў поўны думак чаканьня.

— Вінцэсь,—зьвярнуўся ён да свайго лепшага сябрука,—пагонім дамоў, заўтра нядзеля—наядуцца.

— Наадварот,—адпіраўся той, стараючыся абгуляць у каменчыкі Ганну,—сёньня даўжэй трэба пасьвіць, каб бакі парабіліся, як круглякі.

Ніхто гнаць дамоў не згаджаўся. Пятрусь вылучыў свае каровы і пачаў падганяць патроху к выгану.

Пятрусь загнаў каровы ў хлеў, борзьдзенька скочыў на стрэху, адтуль праз дзірку на столь ды спусьціўся па драбінах у хату. Узяў у пячурцы пачак запалкаў, укінуў іх у шапку і пачаў вылазіць. Вылез ужо на страху, прысеў, каб спусьціцца на плот, а тут—на табе!—маці адчыняе весьнічкі. Што рабіць? Асьцярожна пералез на другі бок страхі, скокнуў на суседні сьвіны хлявушок і пабег. Адбегшыся да палосак, прысеў за мэндаль, аддыхаўся ды зноў пабег, бо ў галаве адно:—хутчэй, няма калі сядзець...

Сонца даўно схавалася за горку. Расьцілаўся лёгкі туман. Чародамі вярталіся жнеі; сям-там сьпяшаўся ставіць гаспадар мэндлі. Тарахцяць у нізіне кары; дваровы парабак вязе сена. А там, у сяле, ляскае бізун, гоняць дамоў быдла.

Бегае бацька, бегае й матка, Пятруся шукаюць, ніяк ня возьмуць у троп, дзе-б мог ён дзецца з карсўмі.

— Пагнаў раней,—адказвалі пастушкі.

— Ня бачылі,—адказвалі суседзі.

Маці абыйшла ўсіх пастухоў, схадзіла на пашу—няма.

— А каб ты скісла,—пасварыўся бацька, упускаючы ў хлеў „сівога“ ды гукнуў да жонкі:—ня шукай, каровы ў хляве.

— А ці ўсе?

— Усе.

— Балазе, што ўсе. Сам халера недзе ў сад палез.

Прывалачэцца, ліха яго ня возьме,—адказала маці ды, зьняўшы даёнку, пайшла ў хлеў...

На ўзгорку бялее панскі дом абсажаны дрэвамі, хлявы, а трохі з боку—вялікае, з цаглянымі шуламі гумно.

Жудасьць ахапіла Пятруся. Ціха наўкола, толькі забрэша дзе небудзь дваровы сабака ды іржаць коні. Сьцямнела, як сьлед, нат‘ зорак ня відаць.

Моцна білася сэрца, як падышоў пад стог сена, што стаяў каля дзьвярэй гумна, дастаў запалкі, а сам трасецца.

— Сту-ку, сту-ку,—заляскаў вартаўнічы ў другім канцы двара.

Пятрусь скалануўся, яшчэ больш затросься. Раптам сабраўся з сілаю, прабраў у стозе ямачку, памяў сена і шморгнуў запалку. Заскакала жоўценькае вочка на канцы запалкі і вось падносіцца да стога... Забегала полымя, затрашчаў стог, адкідаючы наўкола бляск.

Скочыў Пятрусь і, бы маланка, памчаўся, баіцца азірнуцца. Здавалася яму, што вось нехта наганяе, але дарэмна.

Пятрусь адбегся ў лагчынку, прысеў. Трапятала сэрца, але глянуўшы на горку, дзе бушаваў агонь крычалі і бегалі людзі, усё прамінула і нават радасьць і здавальненьне абхапіла яго. Лёгкі халадок прымусіў нацягнуць шапку. Крануў голаў, але шапкі няма. Пацямнела ў вачох: яна там,—і яшчэ мацней забілася сэрца...

— Знойдуць і пазнаюць, бо хто-ж не пазнае яго з паломаным казырком шапкі. Што-ж я нарабіў! Будзе-ж мне! Заб‘юць цяпер, як Гілера!—і буйныя сьлёзы сыпаліся на грудзі, і так усю дарогу плакаў, а ногі ступалі, бы скошаныя...



Спала вёска. Ніхто ня ўстаў на дапамогу, ніхто не хацеў турбаваць салодкі сон. Толькі вартаўнікі стаялі ў канцы ды любаваліся, як гарэў двор, радаваліся даўно чаканаму здарэньню.

— Вось дзякуй яму, добры чалавек знайшоўся,—прагаварыў стары Ясь,—не спалілі кагалам, дык нехта адзін пастараўся. Добрая адплата за наш крывавы пот.

— Да чыста згарыць, высушыла,—дадаў Даніла.

Дамоў вярнуўся Пятрусь позна, і толькі ўсхліпваў, бо плакаць больш ня мог. Тым-жа ходам, што браў запалкі, улез у хату і ціха, ня скідаючы портак, падлез пад коўдру да бацькі ды моцна заснуў, забыўшыся аб шапцы, якая згарэла разам з дваром пана Плянтоўскага.

**Кастусь Мароз.**

# Наша жыцьцё

Янка Кашкель

## Кепска працаваць.

*(Бяседавіцкі атрад Ю. П.).*

З надыходам летняга часу ўмовы працы нашага атраду з кожным днём робяцца горшымі, з прычыны таго, што ўсе піонэры займаюцца гаспадарчай працай. Прысутнасьць на сходах малая. Але, ня гледзячы на тое, што працаваць у клюбе ў летні час няма аніякай магчымасьці, нашы піонэры стараюцца скарыстаць вольны час для чытаньня кніжак.

**М. Лупікаў.**

## Зацікаўленасьць да пісаньня расьце.

Раней піонэры Бяседавіцкага атраду, амаль што, зусім ня цікавіліся чытаньнем газэт і часопісяй.

Таксама ніхто з піонэраў ня пісаў у газэты аб сваім жыцьці, але з часам бяседавіцкія піонэры пачалі цікавіцца газэтамі і многія з іх пачалі выпісваць піонэрскую літаратуру.

Корэспандэнцкая праца цяпер паляпшаецца. Зараз у нашым атрадзе ёсьць шэсьць пікораў, якія пішуць як у мяйсцовыя, так і ў цэнтральныя газэты.

**Г. Ефраменка.**

## Організаваўся атрад.

*(Старобінскі раён, Слуцкае акр.).*

У пачатку 1926 г. організаваўся наш атрад. Раней дзеці вялі сябе вельмі дрэнна, але дзякуючы ячэйцы КСМ, якая дала нам працаўніка, у нас організаваўся атрад.

Нядаўна 8 піонэраў далі ўрачыстае абяцаньне.

Бацькі адносяцца да піонэраў добра. Адно кепска, што няма свайго клюбу.

Цяпер выпускаем першы нумар насьценнай газэты. Праца з кожным днём расьце.

**М. Варшал.**

### Зьмена Ільлічу.

З гарадоў  
На вёскі й сёлы,  
Мы ідзем  
За Комсамолам.  
Ідзем мы дружна  
Крок за  
Крокам—  
Далей!..  
Нас шмат!..  
Плячо к плячу  
Ідзем ў жыцьцё.  
Высока ў небе паланее наш  
сьцяг:  
„На зьмену  
Ільлічу!“

Піонэр **Сяргей Грахоўскі.**

---

## „ПРЫКЛАДНЫЯ ПІОНЭРЫ“

*(Малюнкі з украінскай газэты „На Зьміну“).*



1. Неорганізаваных трэба старацца прыцягнуць да працы ў атрадзе, а калі яны гэтага ня хочуць, дык можна рабіць і так, як на малюнку паказана.

### У Комсамол.

Ад палёў і ад заводаў  
Піонэраў раць ідзе.  
Звонка, сьмела і бадзёра  
Марш будзённага гудзе.  
Комсамолу йдзе на зьмену  
Маладая раць байцоў,  
Пракладае што дорогу  
Да вялікіх дзён...  
Крок у крок,  
Нага ў нагу,  
— Левай, правай... раз, два,  
тры...

Піонэр, заветы помні,  
Помні сэрцам маладым!

**А. Мацэральнік.**



2. Дома, калі цябе хто-небудзь ня слухае, зараз у зубы—як шаўковыя стануць.

## Займаемся фізкультураю.

*(Талькаўскі атрад Ю. П.).*

Да гэтага часу ў нашым атрадзе не займаліся фізкультурай па розным прычынам, а галоўнае тое, што ня было кіраўніка. Цяпер у нас ёсьць кіраўнік, які займаецца з атрадам кожны тыдзень. Апрача гэтага вылучылі 12 піонэраў, якія займаюцца фізкультурай, дзеля таго, каб забясьпечыць на далей наш атрад кіраўнікамі.



3. А на зборах атраду і паспаць як сьлед можна, супачыць ад „трудоў праведных."

**Шмідт.**

## Трэба прабудзіцца.

*(м. Койданава, Менск. акр.).*

Ужо год, як Койданаўскі атрад імя Рыкава „выпускае" сваю насьценную газэту.

За гэты тэрмін рэдколегія ніводнай газэты ня выпусьціла, у той час, калі гэта было патрэбна—заўсёды позна, а за апошні час ($1^1/_2$ м-цы) газэта зусім ня выходзіць.

На ўсё гэта савет атраду глядзіць скрозь пальцы.

Трэба прабудзіцца рэдколегіі і савету атрада.

**М. Амельянюк.**

## Наша сьвята.

*4-я гадавіна Менскай піонэр-організацыі.*

Падрыхтоўка пачалася яшчэ за тыдзень. Ва ўсіх атрадах праводзіліся адпаведныя гутаркі. Адбылося некалькі вечароў, прысьвечаных юбілею.

У дзень сьвята, пляц Волі пакрыўся чырвонымі гальштукамі. Гудзяць бубны, нясуцца сьпевы, хвалююцца сьцягі. Куды ні кінь вокам—піонэры і піонэры. Здаецца, канца ня будзе гэтаму чырвонаму мору... Гэта — усё атрады Менску, якія зьявіліся на дэмонстрацыю.

Вітаць нас з сьвятам сабраліся прадстаўнікі ЦК КПБ, ЦК ЛКСМБ і ўраду БССР. Хуткімі крокамі абходзяць яны піонэрскія калёны, вітаючы кожную. Моцным „ура!" спатыкаюць піонэры сваіх правадыроў.

Тав. Зімін заклікае нас у дзень свята памятаць аб дзецях Захаду, якія разам з бацькамі прыгнятаюцца капіталам. „Комсамол,—кажа ён далей,—пільна сочыць за вашай працай і жадае вам стаць добрымі, загартаванымі Ленінцамі".

Далей, здача ўрачыстага абяцаньня... Адчувалася, што кліч „Заўжды гатоў" — гэта ня пусты гук, а думкі і жаданьні кожнага прысутнага. Яшчэ адчувалася агульнае жаданьне стаць на справе добрай зьменай, здольнай падмяніць комсамол.

Бадзёра зьвінелі маладыя галасы, калі разыходзілася наша дэмонстрацыя па хатах.

**І. Зэльцар.**

## Грамадзянская праца.

*(Дзіц. Гарадок).*

У „Гарадку" маецца чатыры піонэрскіх атрады. Грамадзянская праца дзяцей у „Гарадку" значна пашырана.

Вечары, якія робяцца ў Дзіцячым гарадку—не зачынены для ўсіх дзяцей.

Апрача гэтага, у гарадку выдаецца насьценная газэта, выпісваюцца дзіцячыя газэты і часопісі, гэта ўсё разам узятае дапамагае разьвіцьцю піонэраў.

У сьвяточныя дні дзеці гарадка ходзяць па вёсках і праводзяць з сялянамі гутаркі на тую ці іншую тэму.

У гэтым годзе Акр. АНА адпусьціў 500 руб. на пабудову новага будынку, які пойдзе пад спальню.

Мы, піонэры, спадзяемся, што наша праца сярод сялянства ў гэтым годзе яшчэ больш пашырыцца.

**М. Горон.**



4. Лёзунг: — „у здаровым целе—здаровы дух" — ажыцьцяўляе ён так...

## Бачу зноў...

Бачу зноў я поле, вёску,  
Люба ў ёй мне ўсё да званьня...  
Я іду сваёй палоскай  
З песьняй шчырага вітаньня.  
Вось і гай мой гучна-звонны!..  
Радасьць сэрца ўскалыхнула.  
Мне мяцёлкаю зялёнай  
Ліпа стройная кіўнула.

А з кустоў і ад галінак  
Льлюцца песьні, шчабятаньне.  
Шумам дрэў, кустоў, травінак  
Шле мне гай сваё вітаньне!  
Я іду, шумяць палоскі,  
Вецер жыта разганяе...  
Зноў цябе, матуля вёска,  
Я убачыў, дарагая!..

Піонэр **Зьмітрок Астапенка.**

## Наша сувязь.

*(Дрыбінскі атр. імя Адамовіча).*

З пачатку організацыі нашага атраду ніякай сувязі з комсамольскай ячэйкай, амаль што, ня было. Цяпер сувязь наладжваецца. Комсамольцы прысутнічаюць на нашых зборах і праводзяць часта гутаркі. Піонэры-ж у сваю чаргу прысутнічаюць на сходах яч-кі. Атрад падрыхтаваў і перадаў ужо ў ячэйку 4-х піонэраў.

**Піонэр-комсамолец.**

## Рыхтуем зьмену.

*(Узда, II-гі атрад Ю. П.).*

У канцы траўня м-ца г./г. пры нашым атрадзе організавалася група акцябрат. Савет атраду вылучыў павадыра, які пачаў весьці працу ў гэтай групе. Кожны вечар мы зьбіраліся на пляц, праводзілі на ім гульні, сьпевы і г. д.

Піонэрам атраду трэба будзе больш зацікавіцца працай групы акцябрат і тады праца будзе пастаўлена яшчэ лепш.

**Н. Дыкштэйн.**



5. На заўвагі старэйшага комсамольца —можна напляваць—ня лезь не ў свае справы.

## Трэба ўспомніць.

*(м. Старобін, Слуцк. акр.).*

Калі праводзіўся юбілей часопісі „Беларускі Піонэр“, нашым атрадам была вынесена пастанова, каб усе зьвеньні выпісвалі колектыўна сваю часопісь.

Выносілі адно—зрабілі другое.

Цяпер на ўвесь атрад выпісваецца 1-2 экз. Трэба зьвеньням успомніць пастанову.

**М. В.**



## На сьвежым паветры.

*(Менск, 22 атр.).*

З наступленьнем цёплай пагоды мы сваю працу праводзім на сьвежым паветры. Заняткі зьвеньняў, сходы атраду, паседжаньні савету атраду праводзяцца на сьвежым паветры.



6. А калі трымаюць сувязь між атрадамі—дык толькі так, як тут намалявана.

Гэта дае нам магчымасьць праводзіць працу між неорганізаваных дзяцей і зацікавіць больш працай самых піонэраў.

**І. Сапір.**

## Экскурсія.

*(м. Старобін, Слуцк. акр.).*

У маі м-цы атрад Ю. П. імя Варашылава сумесна з атрадам імя Будзённага зрабіў экскурсію у лес. Прышоўшы ў лес, мы разлажылі агонь, трохі адпачылі, а пасьля пачалі гульню, у якой паказвалася барацьба дзяцей за межамі СССР. Пасьля гульні адбылася гутарка.

А 12 гадзіне стройнымі шэрагамі з песьнямі мы прышлі да хаты.

Трэба больш праводзіць гэткія сходы.

**М. Варшал.**



Не паладзілі...

# Як мы дапамагалі вёсцы

(*З жыцьця III-й клясы Менскай Цэнтр. дасьледчай школы*).

Мы ніколі ня думалі быць шэфамі, а вучыліся сабе ў школе дый усё. Захацелася нам пазнаёміцца з вёскай. А каб ласкавей нас там прынялі, мы злажыліся, купілі насеньня і парашылі урабіць якому-небудзь гаспадару агарод.

Доўга мы рыхтаваліся, доўга зьбіраліся, аж надаела чакаць.

Нарэшце выдаўся ясны і цёплы дзень. Мы выходзім з пыльнага і шумлівага гораду ў вёску. Цёпла й ласкава сьвеціць майскае сонца. На полі стаіць гоман вясны. Усё сьпяшаецца скарыстаць цёплую пару. На палёх зелянее травіца й зімовае жыта. Маладыя хваінкі ўветліва ківаюць нам сваімі верхавінкамі. Кідаючыся ва ўсе бакі, пралятае чырвоны матылёк; загудзела недзе пчолка. У прасторы носяцца адгалоскі птушыных песьняў. На пасеках пасецца скаціна. Каля яе сядзяць пастушкі і гуляюць у каменьчыкі. Паводаль чалавек на сытым добрым кані дзярэ ляду.

Праходзім каля ўзоранага поля, балотца-могілак з гнілымі, збуцьвелымі крыжамі, пераваліваем цераз узгорак і перад намі паказваецца Сьлепня. За паўвярсты да сяла, на Барысаўскім тракце, пусткай стаіць стадола-карчма. Настаўнік сказаў нам, што пры паншчыне там жыў адкупшчык і гандляваў гарэлкай, а пры цары была манаполька і што манапольшчыка нехта забіў у час рэволюцыі.

Сяло разьмясьцілася на нявысокім грудзе сярод балота. Па балоце цягнецца ўлукаткі невялічкая рачулка. Яна мае нейкі дзікі і брыдкі выгляд: замест мурожных берагоў, была чорная гразь, вакол — ані дзераўца. У гэтай лужы дзьве дзяўчыны паласкалі бялізну. Мы сказалі ім „дзень добры“ і пайшлі далей. Уваходзім у вёску. Вузкая, каляістая вуліца сьціснута абапал пааб'яжджалымі платамі. Па вуліцы валяюцца кучы кароўскага і сьвінячага гною. З-пад хлявоў высядае гнаёвая жыжа. Хаты нізенькія з маленькімі вокнамі. Калі прыгледзецца да іх дык яны выглядаюць сьляпцамі.

Настаўнік абвёў вёску вачыма, ды й кажа:

— Вось дзе, дык праўдзівая сьлепня. Вось засьляпілі, дык засьляпілі, што і на дзевятым годзе рэволюцыі ачухацца ня могуць! — настаўнік змоўк і апусьціў уніз галаву.

Дзеці, у вадных кужэльных сарочках да пят, з зашмальцаванымі жывацёнкамі, бабы і мужчыны, прыпыніўшы работу, глядзелі на нас, як на якое дзіва. Паўздоўж вуліцы паднялася беганіна дзяцей і сабачы брэх. Мы ідзем далей. Пасярод вуліцы стаяў, як мы потым даведаліся, ізбач і з ім двое сялян. Адзін з іх і пытаецца:

— Чаго вы прышлі такой грамадой?

— Каб пабачыць, — кажа настаўнік, — што каштуе чалавеку бульбіна, як здабываецца кавалак чорнага хлеба. А калі што, дык мы можам і дапамагчы бяднейшым з вас: напрыклад, засеяць агарод — у нас ёсьць добрае насеньне. Грошай за гэта мы ня возьмем.

Гэтыя словы настаўніка зьбілі злосьніка з панталыку. Ён зьмяк. Твар яго разгладзіўся.

А ізбач кажа:

— Тут ёсьць бедная кабета — Марыля. У яе каня няма, дык ці ня можаце вы ёй дапамагчы?

На гэтую гамонку падходзіць і тая цётка. Падыходзіла яна да нас неяк ціха, нясьмела, угнуўшыся.

— Ну, цётачка, пакажэце, дзе ваш агарод? — кажа настаўнік.

У момант часу мы усёй грамадой былі на яе агародзе. Чалавек 10 сялян і сялянак падышлі падзівіцца на нашу работу. Адзін чалавек і кажа:

— Ат, сапсуюць агарод!

А другі, тонкі й доўгі, як смык, чалавек з казьлінай бародкай, дадае з-пад свайго брыля:

— На гэта таксама трэба сьпіцыяльнасьць!

Настаўнік нічога не сказаў на гэта. Ён разуўся, закасаў ногі, узяў вілы і пайшоў

у хлеў накопваць у кошык гною. Мы ўсе былі за работай: хто насіў гной, хто растрасаў яго на гародзе, хто капаў градкі. Калі мы кончылі нашу работу, настаўнік падышоў да цётак і пытаецца:

— Ну, цёткі, што вы скажаце пра нашу работу?

— Што-ж мы скажам—маладцы!

Калі сяляне ўбачылі якія мы работнікі, дык пачалі адзін перад адным прасіць нас да сябе на работу. Мы не адпіраліся і пайшлі памагаць сялянам.

Не прайшло і чвэрці гадзіны, як то там, то сям на полі зачырванелі гальштукі нашых піонэраў. Чуліся беларускія песьні і звонкі сьмех. Чысьценькія, беленькія ножкі нашых піонэрак сьмела ступалі на гной. Далікатныя па выгляду рукі спрытна растрасалі яго па полі. Вучні аж прыпадалі да зямлі, садзячы бульбу. Яны нават апераджалі ў працы вясковых работніц, падганяючы адна другую воклічам: „Да ўсякае працы – будзь гатоў!“

А там ніжэй, на сенажаці, піонэрка нянчыла дзіця, матка якога была занята работай. А калі падышоў настаўнік і запытаўся ў цёткі, як мы працуем, яна так пачала нас хваліць, што аж нам неяк ня ёмка стала.

Пад вечар мы пачалі зьбірацца дамоў. Сяляне пачалі прасіць нас застацца начаваць. Мы сабраліся на сход і парашылі застацца. Начаваць разышліся па тых хатах, дзе хто працаваў. Толькі Стэфа плакала, што ёй давялося разлучыцца са сваёй кампаніяй і што настаўнік недазволіў ёй працаваць: яна была слабага здароўя. У вёсцы пачуўся пах яечні: гэта гаспадыні частавалі сваіх работнікаў.

А назаўтра раніцай спаткалася некалькі баб і гавораць між сабой:

— Але-ж якія сьмешныя дзеці,—кажа адна,—я пяку бліны дый кажу: перавярні блін, служка! Варочала яна, варочала, і рукі сабе паапякала, блін дашчэнту спаліла!

— Але, вось, ты гэта скажы,—гаворыць да яе другая:—іх-жа падаўнейшаму ня вучаць; абразы ведаеш як, яны завуць?—малюнкамі, а усё-ж такі ўветлівыя, уважлівыя, і абы чаго, не падумаўшы, ня скажуць!

— А я сваім дала цэўкі сукаць, дык ты ведаеш, што яны мне сказалі? „Чаму, вы, кажуць, цётка, не аддасьце сваю кудзелю спрасьці на машыне? А таксама няхай-бы вы і ткалі машынай, а то голай рукамі; на машыне-ж, кажуць, куды зручней! „Ты падумай: малое, а разважае, як старое!“

А 4 гадзіне мы пачалі зьбірацца дамоў. На адвітаньні нас хвалілі, дзякавалі нам, прасілі прыходзіць у госьці.

З вёскі мы вышлі парамі, а за вёскай кожны йшоў з кім хацеў.

З няпрывычкі ўсім балелі плечы, ногі, сярэдзіны. Усе былі з мазалямі.



...Мы ўсе грамадой былі на агародзе...

— А што,—кажа Мікола:—павярнуліся тварам да вёскі добра, цяпер будзеце доўга помніць!

Але ўсе былі задаволены, што дапамаглі бяднейшым сялянам у працы і нідзе не пачулі ані воднага слова ганьбы на піонэраў; нават сяляне назвалі нас—сваімі шэфамі.

**К. Шапялевіч.**



# У ЛЕСЕ.

Здалёку пачуўся шум, сьмех, і між дрэў пачалі бегаць маленькія фігуры з чырвонымі гальштукамі. На выперадкі бягуць да ручча. Хто п'е прыгаршамі, хто лёг на жывот і ўваткнуў нос у ваду.




Чырвонаармейцы сярод піонэраў у лягеры.

Больш запасьлівыя вымаюць бутэлькі з малаком і набіраюць у бутэлькі ваду.

Ніжэй хлапцы мыюць свае галовы, рукі, ногі. Пасьля садзяцца, каб трохі перакусіць, адпачыць і зноў бягуць, рассыпаюцца па лесе.

Доўга ня хочуць піонэры зьбірацца. Павадыры склікаюць сваіх піонэраў, гучыць труба, а піонэры—хто п'е, хто мыецца, хто канчае есьці булку, але патроху зьбіраюцца. Агульны збор атрадаў імя „Парыскіх камунараў", „Варашылава" і „Карла Лібкнэхта" пачаўся.

Маленькая гутарка аб сувязі між атрадаў, аб выпаўненьні законаў і звычаяў юных Ленінцаў.

— Атрады па месцах! Раўняйся!

Выраўняліся, стаяць сьмірна, а вочы так і бегаюць, так і шчупаюць галовы дрэў і разнакалёрныя пераліўы траў.

Здалёку данеслася:

— Атрады, сьмірна! Да ўрачыстага абяцаньня.

Некалькі слоў даецца прадстаўніку раённага дзіцячага бюро. Чытаюцца словы ўрачыстага абяцаньня. Восем будучых Ленінцаў дружна паўтараюць такія простыя і разам з тым глыбокія па сэнсу словы. Тут, у лесе, сярод высокіх простых хвой, пад музыку маленькай рачулкі, перад грамадой сваіх таварышоў—будучыя Ленінцы клянуцца цьвёрда стаяць за справу рабочай клясы!

— Направа! Налева! Шагам марш!

Павадыры адзяюць праходзячым піонэрам падрыхтаваныя раней гальштукі. Ідуць прывітаньні, а пасьля пачынаюцца гульні. Піонэры разыходзяцца на дзьве групы—партыя чырвоных і белых. Прысутны кіраўнік, камандзір, высьвятляе, як трэба рабіць разьведку, якія заданьні павінны рабіць атрады і згаварваецца, як праводзіць гульню. Адзін атрад ідзе далёка ў лес, дзе ёсьць шмат глухіх мясьцін. Высылаецца разьведка з абодвых бакоў. Піонэры, ад нецярплівасьці хутчэй знайсьці ворага, кепска хаваюцца, крычаць і г. д.

У адным месцы пачуўся крык і шум,—узялі ў палон. У другім месцы сілы аднолькавыя. Разыходзяцца. Бягуць у розныя бакі і пачынаюць наступаць ізноў. Дзеці маюць вопыт, лепш хаваюцца за дрэвамі, ня крычаць, дзе трэба паўзуць між кустоў і травы. А пасьля, калі піонэры йшлі да гораду Стара-Быхаў, яны доўга яшчэ спрачаліся за тое, хто гуляў правільна, а хто няправільна.

Труба абвяшчае канец гульні. Збор. Кароткі разгляд і выясьненьне таго, чыя перамога. Кожнаму хочацца расказаць, як ён наступаў, што ён рабіў і каго забраў у палон.

**Н. Дэві.**

# УЗМАЦНЯЙ ЗДАРОЎЕ ЛЕТАМ.

**Сонца, паветра і вада—прыяцелі нашага здароўя.**

Шмат хто з вас, дзеці, напэўна, ужо чуў, што сонца, паветра і вада для здароўя чалавека маюць вялікае значэньне. Тое, што гэта так, лёгка пераканацца кожнаму з вас. Успомніце, калі доўга прабыўшы ў хаце, дзе дарослыя многа курылі, вы выходзілі на сьвежае паветра. Ці-ж няпраўда, што тады было вам лягчэй дыхаць, няпрыемнае адчуваньне ад нясьвежага паветра і дрэнны настрой ад гэтага раптам зьнікалі.

**Чыстае паветра—аснова нашага здароўя.**

Дзеля гэтага кожны з вас павінен лічыць за правіла, як можна часьцей праветрываць памяшканьне, дзе прыходзіцца жыць, улетку спаць з адчыненым вакном, пераканаць дарослых, каб ня курылі ў памяшканьні, бо дым тытуну вельмі шкодны. Некаторыя з вас, напэўна, маюць дрэнную прывычку спаць накрыўшыся з галавою коўдраю. Гэтага рабіць ня трэба.

У хаце, дзе жывеш, ня раіцца трымаць брудную бялізну, вёдры для памойкі і інш.—усё гэта атраўляе паветра. Дыхаць заўсёды трэба глыбока, удыхаючы праз нос.

**Сонца—пачатак жыцьця, сонца—наш прыяцель.**

Паглядзеце на расьліну, якая жыве ў цені—якая яна лядаштая і слабая; цяпер паглядзеце на тую-ж расьліну, што расьце пад сонцам—якая розьніца! Гэтак і чалавек. Той, хто жыве ў падвале, куды не праходзяць праменьні сонца, вырастае слабым і хваравітым. Здавалася-б, што карысьць сонца ўсім зразумела, а ўсё-ж такі ў нас яшчэ жывуць старыя прывычкі. Людзі найчасьцей хаваюцца ад сонца, чым цягнуцца да яго.

Сонца—наш сябра, але карыстацца ім трэба таксама ўмець. А то, вось, некаторыя паедуць за горад, адзенуць трусікі і радуюцца. Наляжыцца цэлы дзень на сонцы, а на другі дзень да цела не дакранешся. Чаму гэта так? Значыць, зразу праз меру пёкся—з няпрывычкі апаліў скуру.

**Як-жа карыстацца сонцам.**

1. У першы раз, калі вы маеце магчымасьць скінуць з сябе адзежу, каб загарэць на сонцы, не ляжэце звыш 10-ці—15-ці хвілін, пры тым мяняйце ўвесь час становішча свайго цела.



Акцябрата ў лягэры.

У далейшым гэты час можна прадоўжыць да гадзіны, паўтары.

2. Сонечныя ванны ня трэба прымаць у найболей гарачы час дню, гэта ёсць, ад 11—4, і ўсьлед пасьля яды.

3. Загарваць лепш усяго пачынаючы з ніжняй часткі цела.

4. Галаву заўсёды трэба накрываць або лёгкай шапкай, або хустачкаю.

5. Пасьля ўтомнай працы трэба адпачыць, затым карыстацца сонечнымі ваннамі.

6. Калі адчуваеш сябе нездаровым, на сонцы ляжаць ня раіцца.

7. Тым, у каго сэрца хворае, неабходна парадзіцца з доктарам, ці можна прымаць ім сонечныя ванны.

8. Пасьля ляжаньня на сонцы трэба добра выкупацца ў рацэ, або абмыцца вадою.

**Вада—наш трэйці сябра.**

Ня будзем казаць аб тым, што вада дапамагае нам зьнішчаць гразь, што яна адыгравае ў звычайным жыцьці чалавека досыць вялікую ролю; тут пагутарым аб тым, як карыстацца вадою ў поўным абхваце—аб купаньнях.

Хто ня любіць у гачары летні дзень ускочыць у прахалодную, прыемную для адчуваньня на цела, ваду. Нават дарослыя, калі яны пападаюць у ваду, становяцца дзяцьмі, жартаўнікамі. Так прыемна паплёхацца, папырскацца, паплаваць. Іншыя, дык на цэлы дзень ідуць на рэчку. Ці карысна гэта? Бязумоўна, не заўсёды. Карысным гэта будзе тады, калі мы будзем умець правільна карыстацца вадой.

**Як трэба карыстацца вадой.**

1. Купацца ў рацэ, або ў возеры ня можна пры тэмпэратуры ніжэй 15 град. па Рэомюру.

2. Пасьля яды, у асаблівасьці пасьля абеду, купацца можна не раней, як праз дзьве з паловай гадзіны.

3. Калі цела залішняе гарачае (успацеў), трэба трошкі пасядзець на беразе—адпачыць, а пасьля ўжо ісьці ў ваду.

4. У вадзе трэба быць ня больш 3-х—5-ці хвілін, не застаючыся ў гэты час бяз руху.

5. З хворым сэрцам трэба быць асьцярожным пры купаньні, лепш усяго пагаварыць аб гэтым з доктарам.

6. Калі на беразе няма пяску, дзе добра можна паваляцца, патрэбна дасуха выцерці цела і прарабіць некалькі фізычных практыкаваньняў, каб хутчэй нагрэцца.

7. Калі ня ведаеш добра ракі, то плысьці далёка ня раіцца; лепш усяго плавай недалёка ад берагу.

8. Ніколі ня трэба заводзіць розных гульняў на глыбокім месцы, гэта можа скончыцца дрэнна.

9. Уваходзіць у ваду больш двух разоў ня раіцца.

У іншым разе ад гэтага будзе не карысьць, а шкода.

Пільна прытрымліваючыся адзначаных парадаў, лёгка будзе пераканацца вам у тым, які добры ўплыў робіць на чалавека чыстае паветра, сонца і вада.

С. Паўлаў.

(„Октябрьские всходы").



На экскурсіі




# Жыцьцё дзяцей ва ўсім сьвеце.

### Конфэрэнцыя Чэха-Славацкіх піонэраў.

Нядаўна ў сталіцы буржуазнай дзяржавы Чэха-Славаччыне, у г. Празе, адбылася конфэрэнцыя комуністычных піонэрскіх організацый усёй краіны, скліканая комсамолам.

Гэта конфэрэнцыя вызначыла далейшы шлях масавай баявой організацыі пролетарскіх дзяцей.

Пажадаем-жа посьпеху ў гэтай далейшай працы нашых таварышоў.

### У дарогу.

Сягоньня лес і зоры
Жывым агнём гараць.
Сказалі нам на зборы,
Што ў лагеры пара.
Хлапцы, хлапцы, дзяўчата,
Які прастор, блакіт!
Ізноў, ізноў палаткі
На беразе ракі!
Ізноў мы барабанам
Разбудзім вёсак ціш.
Пара! Ужо ня рана!
Ты, горн, даўно маўчыш.
Эх, ліся песьня, плёскай,
Палай агнём ізноў.
Мы пойдзем, пойдзем ў вёску
Вучыць яе сыноў.
Мы будзем зноў ў саўхозе,
Як некалі раней.
Усюль, браточкі, пойдзем
Сьпяваць жыцьцю й вясьне.
Нас там чакаюць дзеці,
Іх словы к нам ляцяць.
Чакай, таварыш-вецер,
З табой адзін нам шлях.
Ў трывозе думкі сёньня
І сэрца ў грудзі б'е...
Мы пойдзем ў шыр загонаў
Здабыць вясну сабе.

**А. Ф.**

(З расійскага)

### Маленькія рабы капіталу.

(*Аўстрыя*).

Цяжка жывецца дзецям працоўных у Аўстрыі. Дрэнны заробак бацькоў і беднасьць прымушае дзяцей яшчэ з раньняга ўзросту працаваць на фабрыках і заводах. Ня так даўно ў часопісі аўстрыйскага профсаюзу тэкстыльшчыкаў была надрукавана ведамасьць аб становішчы рабочых ткацкіх фабрык у Форарбэрскае акрузе. У гэтым артыкуле гаворыцца, што на ткацкіх фабрыках працуюць не па сіле—па 14 гадзін на суткі.

Ня ў лепшым становішчы знаходзяцца і дзеці аўстрыйскіх рабочых. Згодна паведамленьня азначанай часопісі на ўсіх ткацкіх фабрыках дзеці працуюць па 10, а то й па 12 г. на суткі, ні на хвіліну не пакідаючы варстатаў.

### Зьмена зьмене.

Нядаўна Нямецкі Саюз Юных Спартакаўцаў (піонэраў) сьвяткаваў сваё зусім новае і асаблівае сьвята. Нямецкія піонэры ў першы раз організаваным шляхам перадалі сваіх лепшых таварышоў у шэрагі комсамолу.

Перадача Юных Спартакаўцаў насіла асабліва ўрачысты характар. На юнацкіх сходах яны, у прысутнасьці соцень маладых рабочых і піонэраў, давалі ўрачыстае абяцаньне, дзе казалі аб тым, што будуць дастойнымі несьці назву комсамольцаў. У гэты ўрачысты дзень Бэрлінская Організацыя Саюзу Юных Спартакаўцаў перадала ў комсамол 150 піонэраў.

На адным з сходаў юны спартак, якога перадавалі ў комсамол, заявіў што й надалей Саюз Юных Спартакаўцаў будзе перадаваць сваіх лепшых таварышоў для працы ў комсамоле.

## Піонэры Амэрыкі.

Далёка ад нас знаходзяцца дзеці Амэрыкі. Матар'ял аб іх жыцьці рэдка пападае да нас. Нядаўна атрыманы майскі нумар іх часопісі „Юны таварыш“. Гэта часопісь лепш усяго адбівае на сваіх старонках жыцьцё і змаганьне дзяцей рабочых і сялян Амэрыкі.

Гэты нумар галоўным чынам прысьвечаны вялікаму сьвяту сусьветнага пролетарыяту—1-му мая. Май гэтага году ў Амэрыцы—гэта май крывавай барацьбы амэрыканскіх гарнякоў, ткачоў і іншых рабочых. У гэтай барацьбе дзеці не застаюцца ў баку. Яны прымаюць актыўны ўдзел у забастоўках, праводзячы кампаніі па збору грошай на карысьць бастуючых, дэмонстрацыі і г. д. Цікавымі зьяўляюцца допісы дзяцей, бацькі якіх прымаюць удзел у забастоўках. У іх расказваецца аб тых цяжкіх абставінах жыцьця бастуючых рабочых у зьвязку з галадоўкамі саміх і сям'і, якія прыходзіцца перанесьці за агульную справу пролетарыяту.

Асобная старонка прысьвечана школьнаму змаганьню.

Цікава, што дзеці-піонэры прымушаюць настаўнікаў адказваць на тыя пытаньні, якія іх больш усяго цікавяць.—Чаму рабочыя бастуюць? і інш. Дзеці не хаваючы ад настаўнікаў заяўляюць, што іх бацькі бальшавікі. За гэта настаўнікі такіх дзяцей застаўляюць пасьля заняткаў у школе, для адбываньня кары.

Настаўнікі, падкупленыя буржуазіяй, стараюцца давесьці дзецям, што бальшавікі—гэта шкодныя бунтары, а рабочыя бастуюць таму, што хочуць мець чым паболей грошай, вельмі зайдросныя.

Але з дзіцячых допісаў гэтай часопісі відаць, што яны добра разумеюць супярэчнасьці двох няпрымірымых клясаў і іх барацьбу. Гэтыя дзеці самі яскрава і праўдзіва адказваюць на тыя пытаньні, на якія не маглі атрымаць адказу ад настаўнікаў.

## Профэсар Шарль-Жыд аб дзецях Саюзу ССР.

Вядомы францускі проф. Шарль-Жыд пасьля прыезду з падарожжа па Саюзу ССР напісаў наступнае аб жыцьці дзяцей Савецкага Саюзу.

„Ні ў воднай краіне не заўважваў такіх клапотаў аб дзецях, як у бальшавіцкай; я бачыў дзяцей, якія гуляюць у прыгожых аўтомобілях; бачыў дзяцей у тэатрах; яслі, дзіцячыя сады, пляцоўкі маюцца ўсюды“.

У апошні час мы вельмі часта чуем гэткія заявы чужаземцаў аб Савецкім Саюзе. Аб чым гавораць гэтыя заявы? Адказ на гэта можа быць хутчэй усяго адзін: як дрэнна і цяжка жывецца пролетарскім дзецям у ва ўсіх капіталістычных краінах, калі яны з такім уздымам і захапленьнем гавораць аб нашых заваёвах у Кастрычніку!

## Фізычная праца дзяцей у Ангельшчыне.

Каля 250.000 дзяцей Ангельшчыны заняты працай у якасьці разношчыкаў малака, газэт і г. д.

У каменавугальных капальнях у 1925 г. працавала 59.378 дзяцей маладзей 16-ці гадовага ўзросту, з іх 41.587 працавала пад зямлёй.

У 1922 г. з ліку маладых рабочых, маладзей 16-ці год, у капальнях было забіта—41 ч., паранена—8.005, а ў 1923 г. забіта—65 ч., паранена—9.907.

Такім чынам, амаль 10.000 дзяцей штогодна застаюцца параненымі, шмат з іх і памірае ў ангельскіх капальнях.

## ЛЕНІНСКІЯ ЎНУКІ.





На нашых здымках зьмешчаны Аўстрыйскія піонэры—дзец рабочых.




**Я. Кур'яновічу**. Твае апавяданьні „На начлезе" і „Рыгорка-пастушок"—зьмешчаны ня будуць. У гэтых апавяданьнях няма нічога цікавага, яны больш падобны на допісы, чым на апавяданьні.

**І Гурэвічу**. „Міхалка" друкавацца ня будзе. Прыблізна на такія тэмы ў нас было шмат ужо малюнкаў. Старайся выбіраць новыя, нікім неапрацаваныя яшчэ, тэмы.

**А. Нецярплівапу.** „Апавяданьне дзядзькі Сымона" напісана слаба. Тэма гэтая ўжо была ў часопісі „БП"—„Апавяданьне дзеда Апанаса"—зьмест, амаль што, аднолькавы ў гэтых апавяданьнях. А таму друкаваць гэткае апавяданьне няму сэнсу, ня цікава будзе для чытачоў.

**С. Рубэрту**. П'еска „На сьмерць Леніна" друкавацца ня будзе. Яе нельга будзе ставіць на сцэне, бо зусім малая і слаба напісана.

Раім табе пачытаць артыкул „Аб піонэрскай творчасьці" і заняцца больш вучобай, пачытаць больш п'есак і больш папрацаваць над сабой, пасьля чаго пачаць пісаць і самому. Бо так „абы напісаць" нельга, яна ня будзе цікавіць гледачоў.

**С. Федаровічу**. Верш „Люблю" слабаваты і нічога новага ў ім ты не даеш. Да друку не падыходзіць.

**Р. Нікановічу.** Верш „Піонэры" напісаны ня зусім гладка. Неапрацаваны. Ня пойдзе.

**Гэрцовічу**. Тэма твайго вершу зусім старая. Ня цікава будзе чытаць яго піонэрам.

**А. М.** Аб „прадвесьні" ужо шмат вершаў напісана да твайго. У тваім нічога новага няма. Ня пойдзе.

**Вясковаму піонэру**. Цяжка адрозьніць твой верш „Нас не забывайце" ад звычайнай корэспондэнцыі. А зьмяшчаць яго заместа корэспондэнцыі ня варта. Больш працуй над вершамі і над сабою. Вучыся.

**Я. Кліменьцеву**. Заметка „Год нашай працы" ня пойдзе. Факты, аб якіх ты пішаш, вядомы ў сваёй працы кожнаму атраду. Нічога новага вы не зрабілі, а таму і ня цікава будзе для чытачоў твая заметка.

**В. Круціку**. „Насьценгазэта"—ня пойдзе. Аб гэтым ужо друкавалася ў нашай часопісі.

## Запытаньні да рэдакцыі.

1. Ці можа піонэр насіць гальштук калі ён ня даў яшчэ ўрачыстага абяцаньня?
2. Чаму „Б П" ня выходзіць два разы ў месяц?
3. Ці можа павадыр атраду складаць плян працы атраду без дапамогі яч. ЛКСМБ?
4. Якія гутаркі трэба праводзіць у часе організаваньня экскурсій-начовак.

## Адказы.

1. Ня можа.
2. Няма даволі сродкаў, каб выдаваць 2 разы ў месяц. Гэта пытаньне аб водпуску належных сродкаў пастаўлена перад нашымі адпаведнымі органамі. Калі вырашыцца ў дадатны для нас бок—з чарговага бюджэтнага году „Б П" будзе выдавацца двухтыднёвай часопісьсю. Апрача гэтага, часопісь мае, параўнаўча, малы лік падпісчыкаў. Усё гэта не дазваляе нам пакуль што наладзіць выданьне двухтыднёвым.
3. Можа. Плян разглядаецца ячэйкай і калі ён ня вартны, ячэйка можа зьмяніць яго. А складаць можна каму хочацца. Галоўнае—гэта зацьвердзіць плян, чаго павадыр адзін зрабіць ня можа.
4. Гледзячы якую мэту ставіць перад сабой такая экскурсія, і што больш усяго будзе цікавіць піонэраў.

Тэмы для гутаркі могуць быць самыя розныя Лепш усяго абмяркоўваць гэта пытаньне на савеце атраду.



# Да ўсіх піонэраў, школьнікаў і да ўсіх дзяцей.

Шмат хто з дзяцей хацеў-бы чуць па радыё з Масквы ўсе апошнія навіны, музыку. Хто з дзяцей ня марыць над тым, каб самому зрабіць сабе радыё-прыемнік. Шмат хто з дзяцей ужо змайстраваў сабе радзыё-прыемнік, але ён дрэнна працуе.

Юные радыё-прыхільнікі хочуць ведаць, як зрабіць, як палепшыць свае прыёмнікі.

Цэнтральнае бюро юных піонэраў пры ЦК ВЛКСМ і Савет Вобшчаства Сяброў Радыё СССР ідуць вам на дапамогу, юныя радыё-прыхільнікі.

На мясцох (у вакруговых і павятовых гарадох) маюцца аддзяленьні Вобшчэства Сяброў Радыё. Юныя радыё-прыхільнікі павінны ў першаю чаргу замацаваць сувязь з гэтымі аддзяленьнямі. У выпадку, калі на мясцох вам ня змогуць даць патрэбнай для вас спраўкі, парады, або няма ў вашым раёне ячэек і аддзяленьняў Вобшчаства Прыхільнікаў Радыё,—зьвяртайцеся за ўсімі спраўкамі у *Цэнтральны Габінэт Піонэр. Руху*.

Хочаце ведаць, як зрабіць радыё-прыемнік—напішэце нам.

Хочаце слухаць Маскву—напішэце нам.

У вас дрэнна працуе радыё-прыемнік—і аб гэтым напішэце нам.

Хочаце купіць радыё-прыемнік і прылады да яго, дастаць належную літаратуру—напішэце нам.

Паведамеце нас аб усіх вашых жаданьнях у справе наладжаньня радыё і мы дадзем вам усе належныя ўказаньні, парады. Ні адно пытаньне не застанецца без адказу.

Юныя радыё-прыхільнікі, мы чакаем вашых запытаньняў.

Пішэце па адрасу: Масква, Кітайскі праезд, дом № 3, пад'езд 12, Цэнтральны Піонэрскі Габінэт.

Не забудзьцеся ў сваім лісьце напісаць свой правільны адрас.

Нам. старшыні ЦБ ЮП пры ЦК ВЛКСМ **Волкаў**.

Гэнэральны сакратар Вобшчаства Прыхільнікаў Радыё **Салтыкоў**.

## За павялічэньне часопісі „Б. П.“

Я, піонэр Рудзенскага атрада ім. „Карла Лібкнехта“ акуратна чытаю „Б. П.“ і ён вельмі мяне цікавіць як сваім зьместам, гэтак і малюнкамі. А раз зацікавіла мяне, дык я парашыў выпісаць любімую мне часопісь „Б. П.“

Цяпер я выклікаю зрабіць гэта піонэраў Рудзенскага атрада т.т. М. Лосіка, Г. Палея, Р. Фрыд і Чарно Б.

Я. Плашчынскі.

## Памылкі ў друку.

**У № 6 час. „Беларускі Піонэр“ у апавяданьні „Пятачок“ укралася па недагляду корэктуры памылка. Замест надрукаванага: „Апавяданьне вучня В. Казлоўскага“, трэба чытаць: „Пераклад апавяданьня вучнем В. Казлоўскім“.**

## Зьмест:



**Вокладка.**



Выданьне НКА БССР.

Рэдактар—**Рэдкалегія**.



# Піонэры, вучні і ўсе дзеці!

Хто з вас яшчэ ня выпісвае, ня чытае і не дапамагае сваёй працай у пашырэньні адзінай у Беларусі дзіцячай часопісі „Беларускі Піонэр“?—Адгукнецеся і надалей выпраўце сваю памылку,—не забудзьцеся падпісацца на сваю часопіс „Беларускі піонэр“!

Ці падпісаўся ты на сваю часопіс?

## „Беларускі Піонэр“

павінен быць пашыраны ва ўсіх атрадах, школах, дзіцячых дамох, ва ўсіх хатах-чытальнях і клюбах. За справу пашырэньня ў першую чаргу павінны ўзяцца самі піонэры і дзеці!





## Умовы падпіскі:

| | | |
|---|---|---|
| На | 1 м-ц | 20 к. |
| „ | 3 „ | 60 „ |
| „ | 6 „ | 1 р. 20 „ |
| „ | 12 „ | 2 р. 40 „ |

Усе дзеці выпісваюць і ўсе чытаюць „Беларускі Піонэр“.

Піонэры, прысылайце допісы аб вашым жыцьці і працы.

